

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

О лэдзі! Для халоднай той краіны,
Дзе нарадзіўся я, ды не памру,
Вялікаму тасканцу-песняру
Прыпадабняюся не без прычыны.

Прычына — Вы. І хоць мае тэрцыны,
Якія Вам я з бояззю дару,
Належаць не вялікаму пяру,
Вы ўсё ж прабачце мне мае правіны.

Пяшчотаю чаруе Ваша слова
І падначальвае аднначасова.
На поўдні толькі з вуснаў маладых

Мелодыя такая можа ліцца,
Дапамагаючы на ўсё забыцца.
Ах! Што не зробіш толькі дзеля іх?

*Равена, 21 чэрвеня 1819 г.*

# ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

1 Ізноў я ў чалавечым свеце тленным!
І зноў ад праху ўласнага знямог,
Разлучаны з тым прывідам свяшчэнным,

4 Які вылечваў ад зямных трывог
І вёў мяне ў бязмежныя прасторы
Да неба, у якім пануе Бог,

7 З бяздоння, дзе пакутуюць у горы
Бязбожнікі, і стуль, дзе я ў агні
Ачысціўся, каб у анёльскім хоры

10 Убачыць Беатрычэ ўвышыні.
Яна мой дух святлом сваёй спагады
Багаславіла ў зорнай цішыні

13 І, дорачы пяшчотныя пагляды,
Зняслаўленага госця давяла
Да вечнай і загадкавай Трыяды,

16 Хоць ён і сам імкнуўся да святла
І крочыў ад свяціла да свяціла.
О Беатрычэ, што пазбегла тла,

19 Хоць ногі стройныя твае магіла
Даўно накрыла мармурам сваім!
Мяне ты ў Рай сапраўдны пасяліла.

22 Ты чысты і адзіны серафім
Майго такога чыстага кахання,
Якое нельга выцесніць нічым.

25 Я голубам з каўчэга, ад блукання
Зняможаны, валіўся на крыло
Да нашага нябеснага спаткання.

28 Мяне напоўніла тваё святло,
Калі маім дзесятым сонцам лета
Адкрыта позірку майму было.

31 Жыццё і думкі — ўсё табой сагрэта.
Маім каханнем стала ты, калі
Я і не ведаў, што такое гэта.

Як слёзы па табе не залілі
Яго агню ў маім старым паглядзе,
Так і выгнанне з дарагой зямлі.

Быў доўга я з тыранам у разладзе
І зноў вярнуся да сваіх мясцін
Мо ў думках толькі, як на даляглядзе

Ў тумане ўбачу схілы Апенін.
Не згас мой дух — суровы і высокі:
Канаць дадому не прыедзе сын!

Як сонца, што прапальвае аблокі,
Схаваецца — і зменіць змрок зару,
Я гэтак жа, стары і адзінокі,

Таксама неўзабаве дагару.
Я ведаю ўсе віды разбурэння.
І хоць не давялося песняру

Чуць пахвалы, ён, як у дзень стварэння,
Бязгрэшны быў і не пражыў ні дня,
Як раб ці лёкай — дзеля адабрэння.

Час помсціць злосным, а маё імя
На п’едэстал, магчыма, ён паставіць,
Хоць трапіць і не дамагаўся я

Ў спіс тых, каго натоўп бяздумна славіць
І вуснамі ўтварае вецер той,
Што дзьме ў іх ветразі і светам правіць.

Мне з ворагамі годнасці людской
І катамі быць разам немагчыма.
Будзь вольным і вялікім, горад мой!

Фларэнцыя! Сястра Ерусаліма,
Якому Бог сказаў: «Табе не быць!»
Мне хочацца цябе, мая радзіма,

Як птушцы — птушанят, крылом накрыць.
Не чуючы мяне, гадзюкай лютай
Сіпіш ты, сэрца, што цябе забыць

Не можа, напаўняючы атрутай,
І надта прагнеш спальвання майго.
Якою невыноснаю пакутай

Тваё пракляцце стала для таго,
Каму не страшна за цябе памерці,
Ды не ад рук катаўніка твайго!

З любоўю да цябе ў збалелым сэрцы
Жыве ён, не зважаючы на страх
Пакут расстання некалі не знесці,

І думае, што ты ягоны прах,
Які сама развеяць загадала,
Ў свой дол перанясеш, каб у вяках

Ім ганарыцца. Толькі надта мала
Надзей на гэта. Застанецца ён
У той зямлі, дзе смерць яго застала.

І хай зямля, што стала з першых дзён
Мне роднаю, прысвоіць не імкнецца
Мой гнеўны прах, хоць здыме свой праклён.

І сэрца, што яшчэ дагэтуль б'ецца,
І розум той, што пазбягаў спакус,
І грудзі, што маглі, як давядзецца,

Кроў за цябе праліць (а я не хлус!),
Ты доўга праклінала. Пілігрыма
З мяне зрабіў змяіны твой укус.

Мне гвельфы, што з дабром непрымірыма
Ваююць, вынеслі цяжкі прысуд.
На гэта ўсё забыцца немагчыма.

Хутчэй, што подлы фларэнтыйскі люд
Забуду я, ушчэнт спакутаваны,
Але загартаваны ад пакут

І цалкам раўнадушны да пашаны
І да абраз яго, бо зажылі
Нарэшце мне нанесеныя раны.

100 Ды я не буду помсціць той зямлі,
Якую некалі лічыў сваёю.
Майго Кахання мошчы адвялі

103 Адзінаю дачаснаю труною
Расплату ад цябе, шматлікі зброд,
Што завалодаў гэтаю зямлёю.

106 І ўсё ж злым словам я паскудзіў рот,
Гарэў, як на руінах Карфагена
Той Марыус з Мінтурніцкіх балот.

109 Мне мроілася і такая сцэна:
Мой люты вораг курчыцца ў агні,
Нібы яго прыстанішча — геена.

112 Той, хто ў пакутах дажывае дні,
Спіць на падушцы помсты і адплаты
І бачыць сон, нібыта на кані

115 Ён зноўку, а пад капытамі — каты.
І будзе так, пакуль пануе смерць
Над шыямі, што ад плячэй адцяты.

118 Вялікі Бог! Дапамажы здалець
Мне думкі змрочныя, калі гатовы
Абараніць мяне і зразумець.

121 Няхай на цвердалобыя галовы
Тых, што мяне звалілі, упадзе
Твой посах — справядлівы і суровы,

124 Бо ты ж мяне не пакідаў нідзе —
Ні ў тых пакутах, што я зносіў дзеля
Фларэнцыі, ні ў працы, ні ў бядзе.

127 На дапамогу клічу зноў цябе я.
Твой трон убачыў позна я, але
На аднаго цябе ў мяне надзея.

130 Якім цяжарам на маім чале
Зноў адбіваюцца зямныя хібы,
Увесь бруд страсцей, народжаных у тле,

133 Сэрцабіццё ад разумовай дыбы
І горкі смутак ад абраз і звад!
Днём і калі ноч зазірае ў шыбы,

136 Я часта азіраюся назад
І ў чорны век, які я дажываю,
Скіроўваю патушаны пагляд.

139 Пражыў я паўстагоддзя і чакаю
Свайго канца, не падуладны злу,
Спакойна, бо і са скалы адчаю

142 Я іншым разам бачыў праз імглу
Крылаты ветразь, што імкліва міма
Плыў, баючыся сесці на скалу.

145 Я голас узвышаў — і хтось, магчыма,
Пачуў мой крык, які нагадваў плач.
Мой век — не мой. Сусвет — мая радзіма.

148 З маіх тэрцын, хоць я не паслугач
Сваёй эпохі, болей, чым з аналаў,
Пра страшны час дазнаецца чытач.

151 Лёс духаў, што мне служаць,— ад вандалаў
Пакутаваць і сэрцы надрываць,
Каб ціха знікнуць пад выццё шакалаў.

154 Паломнікаў шматтысячная раць
Тады збірацца будзе ля магілы
Таго, чыё імя ўсе будуць знаць.

157 І ўсе — вандроўнік і жабрак пахілы —
Яго хваліць і праслаўляць пачнуць
Між камянёў, што маюць від панылы,

160 Ды ён ужо не зможа іх пачуць
І не дазнаецца, што после скону
Ён змог нарэшце славы дасягнуць.

163 Хоць смерць — нішто, але, пакуль час крону
Жыцця латошыць, цяжка адчуваць,
Што ты — кароль, які згубіў карону

166 І розум свой імкнецца ўтаймаваць,
Каб, жывучы без дому і без родных,
Быць жабраком і дурням дагаджаць,

169 А гледзячы на галубоў свабодных,
Зайздросціць, што ля Арна ёсць у іх
Гняздо — і крылы ад заток лагодных,

172 Што сталі ўцехай хлопчыкаў маіх,
Народжаных пагібельнай партнёркай,
Да Апенін узносяць іх дваіх.

175 Змяніць нічога нельга ў долі горкай.
Ды хоць была дарэмнай барацьба,
Наканаваны пуцяводнай зоркай

178 Мне лёс выгнанніка, а не раба.

## ПЕСНЯ ДРУГАЯ

1 Дух бурных дзён былых, калі здзяйснялі
Зарокі ўсе, а думкі праз хаос
Падзей наступных ярка асвятлялі

4 І пакалення будучага лёс,
Аформленага ўжо напалавіну,
І ўсё, што будзе воляю нябёс

7 Пакладзена аднойчы ў дамавіну;
Дух, што натхняў ізраільскіх сыноў,
Мяне натхняе ў гэтую хвіліну.

10 Калі мяне, як і Касандру, зноў
Не чуюць людзі,— і, бы ў пустцы — крыкі,
Ў іх душах глухне гул прарочых слоў,

13 То гэта, знайце, не мае пралікі.
Хто не пачуе споведзі маёй,
Узваліць на сумленне грэх вялікі.

Італія! Ты ўся сцякла крывёй.
Сярод тваіх пакут я ў змрочным рове
Не ўспомніў нават аб бядзе сваёй.

Мой прах — твой прах. Мой дух у кожным слове
Тваім жыве, хоць мова ў заняпад
Прыйшла, як і краіна. Іншай мове

Я памагчы падняцца буду рад —
Яшчэ больш велічнай і больш пявучай,
Для гімнаў годнай і для серэнад.

Я здзейсню мары гордыя — бліскучай,
Як неба над табой, зраблю яе.
Магутнай, дасканалай, неўміручай.

Як салавей Еўропы, запяе
Мая краіна і пераканае
Усіх, што лепшых моў не існуе.

Цяперашняя мова, што канае,
Здавацца будзе карканнем глухім
І ўрэшце варварства сваё прызнае.

І абавязана ты будзеш тым
Паэту-гібеліну, з кім Таскана
Навек разлучана тыранам злым.

О гора, гора! Покрыва сарвана
З тысячагоддзя, што пакуль трымціць,
Як перад бурай — хвалі акіяна,

Які, пахмурна дыхаючы, спіць,—
І ў вочы з вечнасці плывуць імгненні,
На месцы ў небе воблачка стаіць.

У нетрах тояцца землетрасенні.
Хаос, які ствараецца знарок,
Зноў марыць аб сваім уваскрашэнні.

Чакае закліку «Хай будзе змрок»
Стыхія, каб зрабіць цябе кладамі.
Меч упадзе на край, што цешыць зрок.

Італія! Дзівоснымі садамі
Ты мне нагадваеш біблейскі рай.
Няўжо ў сыноў Адамавых з гадамі

Бог адбярэ, як Рай, і гэты край?
Італія, дзе вечна залатыя
Палі, якія хоцьператварай

У клецъ Зямлі, арэ ў дні веснавыя
Нястомна зыркі сонечны нарог;
Дзе сіняй дымкай у часы начныя

Ахутваецца зорны абарог
І дзе калісьці лета збудавала
Палац, які Імперыю бярог!

Ад грабяжоў, якіх было нямала,—
Герояў стан, прыстанішча святых —
Ты мужна Вечны горад ратавала.

Ўяўленні блякнуць між дзівос тваіх.
Калі з альпійскай вышыні, дзе сосны
Хістаюцца на схілах снегавых,

Гляджу туды, дзе днее край дзівосны,
Малюся слёзна я за свой народ,
А сэрца ціснe смутак невыносны.

Франк, гун, германец, як калісьці гот,
Наваляцца. На велічнай руіне
Ізноў усядзецца (і не на год!),

Як на прастоле, смерць на Палаціне
Ў той час, калі валяцца будзе Рым
Скрываўлены ля ног яе ў нізіне.

Блакітнае паветра зноў сырым
І шэрым стане, зробіцца чырвоным
Шафранны Тыбр. Дачка з Айцом старым

Укленчаць перад залатым амбонам
І пад бязладны лямант прыхаджан
Пакінуць храм, што цешыў сэрцы звонам.

82 Ламбардзец, іберыец, алеман
Рваць будуць на шматкі свае ахвяры.
І воўк, і грыф, пантэра і груган

85 Не гэткія, як чалавек, пачвары:
Прэч уцякуць, наеўшыся, яны,
А людзі прагнуць вытанчанай кары.

88 Яны братоў грызуць, як дзікуны,
З такой жа прагнасцю, як Угаліна,
І зноў ідуць на пошук свежыны.

91 Дзевятай поўняй зменіцца карціна.
Па Рыме гуртам пройдуць мерцвякі
Ў той роў, дзе замагільная краіна,

94 Пад сцягам прынца-здрадніка, які
Ўпадзе каля варот, як зла ахвяра,
Угатаваўшы лёс табе цяжкі.

97 Рым! Ты здабыча Францыі ці кара?
Як Брэн, Бурбоны ўзнесці над табой
Не змогуць пераможнага штандара.

100 Ды стане Тыбр сумотнаю ракой.
Калі пяройдуць По і Альпы галы
Або германцы, хваляю тугой

103 Накрыйце, рэкі, раздушыце, скалы,
Варожы спусташальны караван!
Чаму грымяць не ў гэты час абвалы?

106 Чаму палеткі бедныя сялян,
А не чужынцаў ненажэрных орды
Ты часам затапляеш, Эрыдан?

109 Было ж, аднак, што Камбіса кагорты
Ў пясчаным акіяне смерць знайшлі,
А ў моры — з войскам егіпцянін горды.

112 Няўжо вы, рэкі, горы, не маглі
Так паступіць? Няўжо такі пахілы
Ты, рымскі люд, чые бацькі далі

115 Бой пераможны тым, каму свяцілы
Спрыялі Ксеркса грознага разбіць?
Няўжо вы, Альпы, горш за Фермапілы?

118 Хто з вас не паспявае зачыніць
Для злых чужынцаў горныя праходы
І дазваляе здзекі ім чыніць?

121 Прырода калясніцы іх, падводы
Затрымлівае, ды стрымаць адной
Прышэльцаў не пад сілу для Прыроды.

124 Не той, дзе баязлівец — кожны вой,
А толькі той зямлі, што нараджала
Мужчын з небаязліваю душой,

127 Прырода мудрая дапамагала.
Лепш абаронены ў сваёй нары
Паўзун маленечкі, што мае джала,

130 Чым баязлівец той, каго муры
Абараняюць, а ў самога воя
Ад страху ўсё сцінаецца ўнутры.

133 Ёсць у Аўзонскім краі рукі, зброя,
Каб скінуць гнёт чужынцаў назаўжды.
Няўжо так цяжка нам знайсці героя?

136 Насенне неспакою і бяды
Пасеялі разлады ў ім і сіла —
Прышэльцы пажынаюць іх плады.

139 Зямля мая дзівосная! Магіла
Надзей сваіх сыноў! Каб кайданы
Разбіць — удару б аднаго хапіла.

142 Аднак марудзяць мсціўцы. Дух вайны
Нас прымушае між сабой змагацца.
Каб Альпы зачыніць, твае сыны

145 Павінны толькі і ўсяго — З'ЯДНАЦЦА!

# ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

Я з мноства бед — чумы, мяча, чужынца
І ўладара, з сасудаў вечных тых,
Якія ледзь паспеюць спаражніцца,

Як злосць і лютасць папаўняюць іх,—
Паловы нават апісаць не ў стане,
Хоць позірк мой — празорца бед усіх.

Калі я аб Зямлі і акіяне
Не напішу, то існаваць другі
Так, як і першая, не перастане.

Сярод міжзорнай векавой смугі
Злых дзеянняў крывавыя пісьмёны
Трапечуцца, як райскія сцягі.

Італія! Ты — раны і праклёны
Пакутнай нацыі. І стогн яе
Я чую праз анёльскі спеў натхнёны.

Туды, дзе Ўсёмагутны існуе,
Ты ўзнімешся — і арфаю Эола
Народ спакутаваны запяе,

Дзе палымнее серафімаў кола.
Да слёз расчуліць гэты стогн-праклён
Гаспадара свяшчэннага прастола.

Праз вечнасць з тла тваіх нялепшых дзён
Мяне, твайго пакорнейшага сына,
Да сэнсу і пакут узніме Ён.

І зведаюць мае душа і спіна
Здзек славалюбца, самадура гнеў
І подых бур. Прабач, мая краіна,

Якой пяю на ліры, як і пеў,
І прысвячаю Божы дар празорцы,
Што над табою мой агонь датлеў.

Твой позірк на тваёй гаротнай зорцы
Я прыпыню — і знікну назаўжды,
Бо перажыць не зможа сэрца творцы —

І гэта гонар! — будучай бяды.
Але раней, чым чорных дум узоры
Зноў ткаць пачну, дазволь зірнуць туды,

Дзе ў цемрадзі тваёй заззялі зоры
(На жаль, з іх яркіх некалькі ўсяго)
І бліскаюць (іх безліч) метэоры;

Дзе духі з праху вечнага твайго
Паўсталі ўжо і помнік Прыгажосці
(Ты, веру, заслугоўваеш яго)

З пашанай шчырай агдядаюць госці.
Тваёй зямлі яшчэ спрыяе лёс
Раджаць сыноў адвагі, весялосці,

Пісьменнасці і шчодрасці — да слёз
Такіх жа родных для цябе, як родным
Бывае лета для тваіх нябёс.

Іх не спалохаць перашкодам водным,
Імёны іх жывуць у назвах зор,
Але не ўдасца ім, высакародным,

Вярнуць зноў дыядэму — царскі ўбор,
З цябе сарваны варварскай басотай.
Ён увянчае — лёсу насупор —

Ізноў цябе і бліснe пазалотай,
Як будзе вернуты табе табой
У час цяжкі народжанай істотай.

Напоўнены маральны ранак твой
Зноў будзе сонечнымі прамянямі —
Не параю з Авернуса, якой

Халопы дыхаюць, перад панамі
Пакорна поўзаючы і ў турме
Трымаючы свой розум. Галасамі,

Якія глухлі ў векавой імгле,
Ізноў зямля абудзіцца. Паэты
Шлях, што пракладваць давялося мне,

Пашыраць — і пачуе іх тэрцэты
Пра волю і каханне небасхіл,
Які натхнёна птушкамі апеты.

На жаль, не ўсім паэтам хопіць сіл
Узняцца ўвысь і позіркам арліным
Зірнуць на сонца з-пад арліных крыл,

Як гэта робіцца царом птушыным.
Ім суджана каля зямлі лятаць
І праслаўляць царкоў ганебным чынам.

Ды выдадуць паэтаў, што прадаць
Сябе імкнуцца, быццам прастытуткі,
Якім на ўласны гонар напляваць,

Язык фальшывы і хрыбетнік гнуткі.
Паэт, што госцем завітае ў дом
Тырана,— раб. І зробяцца праз суткі

Яго ўсе думкі ўкрадзеным дабром.
Душа яго аблытаецца катам
Так, як і мужнасць, цяжкім ланцугом,

А дух паэта зробіцца кастратам.
Так дагаджае бард, якога трон
Да рук прыбраў, гаспадарам багатым.

Ніякіх думак не знаходзіць ён,
Якія б сталі песнямі, бо барду
Дбаць пра адно даводзіцца здавён:

Як задаволіць царскую пагарду?
Пакорліва ён цягне свой хамут
І праявіць свайго не можа гарту.

Баіцца ён, што не знясуць пакут
І, як анёлы — Богу, злой істоце
У мазгах учыняць думкі самасуд.

Жыхар Афін з каменьчыкамі ў роце
Так выступаў, што цяжка зразумець
Было яго і старцам, і блазноце.

Ды родзіцца паэт, што будзе пець
Табе не так, як гэтыя паэты.
Ён, роўны мне, пашану будзе мець

Сярод паэтаў, пішучых санеты,
І назавуць яны яго царом.
Засмучаны любоўю, геній гэты

Яе галоўным стане песняром,
У бессмяротнасць смутак ператворыць —
І мукі ўсе абернуцца дабром.

Я чую, як пра волю ён гаворыць,
І бачу, як Італія яго
Ўслаўляе і вянок лаўровы дорыць.

Паднімуцца ля По пасля таго
Два волаты, якія будуць нават
Вышэй за папярэдніка свайго.

Свет, як мяне, іх не надзеліць славай,
Пакуль не ператворыць іх у прах.
Фантазіяй вясёлкавай, рухавай,

Як мятлік, думкай, што адпрэчыць страх,
І рыцарствам праславіцца з іх першы.
Прырода ажыве ў яго радках.

Другі пяшчотаю напоўніць вершы.
Яны пральюцца на Ерусалім,
Дзе пралівалі кроў, як першаверцы,

Асобы, што апеты будуць ім.
Каля вярбы над плынню Іардана
Магутнай арфы струнам трапяткім

Душу даверыць ён і апантана
Ў сіонскай песні ўславіць змагароў.
Хоць Пекла прагла, каб накіравана

Была іх мэта ў замагільны роў,
Усё ж сцягі з чырвонымі сцягамі
У горадзе, дзе праведная кроў

133 Крыж першы фарбавала, змагарамі
Узнімуцца, ды ўшанаваны той,
Хто ўславіць іх, не будзе ўладарамі.

136 Каб ён, крый Бог, не звар'яцеў, сцяной
Турэмнай абмяжуецца свабода
Паэта-хрысціяніна. Такой

139 Другога барда будзе ўзнагарода.
Фларэнцыяй выгнанне дасца мне,
Яму Ферарай — камер прахалода.

142 Дык я ж бязлітасным быў на вайне
З разладамі, а гэты мілы ўгоднік
Нікога не заб'е, не пракляне.

145 Нікчэмны, подлы царствуючы зводнік
Ягонай удастоіцца хвалы,
А песняра зганьбуе той нягоднік.

148 Кахаць ён будзе. Толькі сэнс малы
У кахання, што ўзаемнасці не мае.
Чаму дабру лёс дастаецца злы?

151 Хто любіць так, той смерць сваю кахае.
У беднасці, як і яго сабрат,
Што ўславіць рыцарства, паэт сканае.

154 Яны пакінуць свету, што наўрад
Пралье слязу ад жалю і спагады,
Сваіх багатых душ бясцэнны клад.

157 Адзін такі паэт ёсць у Элады.
Але, на жаль, займець вянец двайны
Перашкаджаюць ёй алімпіяды.

160 Няўжо такія людзі, як яны,
Іх думкі, што сягалі ўдалеч смела,
Іх кроў надзіва хуткая, іх сны,

163 Іх мары, што ў прытомленае цела
Душу ўсяляюць, варты, каб суздром
З іх апярэнне яркае зляцела,

Калі завые грозна буралом?
Са шляху збітыя зямною смутай,
Яны, як птушкі райскія, ў свой дом

Вярнуцца прагнуць. Робіцца атрутай
Для іх адчай. Страсцей крывавых раць
Чакае, каб затым са злосцю лютай

Накінуцца на іх і разадраць.
Калі не змогуць да нябёс бязмежных
Іх стомленыя крылы падымаць —

Час наступае крумкачоў драпежных.
Не надта многа знойдзецца такіх,
Ад злосных бур і ўлады не залежных,

Што ў бедах і ў абставінах любых
Спакой і ўласны гонар зберагалі.
Я, спадзяюся, буду ў ліку іх!

Хоць велічнасці іх не прызнавалі,
Яны на даляглядзе праз туман
Альпійскімі вяршынямі блішчалі.

Яны бліжэй да неба, чым вулкан,
Хоць часам і прапальвае аблокі
Агонь, што вывяргае велікан.

Ноч толькі ззяе той агонь высокі
Па-над вяршыняй жудаснай гары,
А потым зноў пускаецца наўцёкі

У пекла, што жыве ў яе ўнутры.

## ПЕСНЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Ёсць шмат паэтаў, можа, самых лепшых,
Што адчувалі, верылі, жылі,
Але душы не выказалі ў вершах

4 І запаветных дум не прадалі
Стварэнням нізкім. Улюбёнцы Бога —
Яны не мелі лаўраў на зямлі,

7 Хоць і былі да зор бліжэй намнога,
Чым тыя атрымоўцы ўзнагарод,
Што не стварылі добрага нічога.

10 Ёсць шмат паэтаў, пра якіх народ
Не чуў ні слова, бо яны лічылі
Заўсёды творчасць лепшай з асалод.

13 Не для таго, каб іх багатварылі,—
Карыснымі зрабіцца для людзей
Яны з намераў лепшых парашылі

16 І дораць ім агонь, як Праметэй,
Ахвяраваўшы прыжыццёвай славай.
Аддзячана ад іншых балючэй

19 Іх цела будзе дзюбаю крывавай
Сцярвятніка. Прыкутыя да скал,
Яны ўсе плоццю зробяцца дзіравай.

22 Хай будзе так! Не знікне наш запал,
Бо мы нязменна ў дух уласны верым,
Хай нават ён пакіне футарал.

25 Ёсць шмат паэтаў, што ў граніце шэрым
Не менш паэзіі ўмясцілі, чым
Яе ў радках, што сказаны Гамерам.

28 Лёс можна высвеціць мазком адным
І так узняць карціну, што прыдзірам
Здавацца будзе палатно жывым.

31 І той, хто пакланяецца кумірам,
Па вечных запаветах жыць пачне,
Бо зможа заваладаць сэрцам шчырым

34 Бог, пераствораны на палатне.
Паэзія, што думкай насяляе
Паветра, чуйных душ не абміне.

37 Мастак свой поспех з імі падзяляе
І рызыку, бо часта лёс журбой
Яго трыумф бясспрэчны падмяняе.

40 Стагоддзі, што мігцяць перада мной,
Ізноў мастацтвы ўзвысіць будуць рады,
Як Апелес і Фідый, над гурмой.

43 Разбураныя аркі і аркады
Навучаць тыя формы адрадзіць,
Што створаны былі ў часы Элады.

46 Аўзонскі дух, які не пакарыць,
У рымскіх працах, зробленых рукамі
Вялікіх італьянцаў, будзе жыць!

49 Мы здзівім свет сваімі купаламі,
Што будуць купал неба падпіраць
Сваімі залачонымі крыжамі.

52 Хоць Пантэон не хоча паміраць,
Пачнуць табой узведзеныя храмы
Больш за яго паломнікаў збіраць.

55 Ніхто такой не бачыў панарамы,
Якую будзе мець галоўны з іх.
Свае грахі ля гэтай райскай брамы

58 Пакінуць вернікі краін усіх.
А будзе архітэктарам сабора
Той геній, што мастацтвы ўсе спасціг.

61 Ён высеча разцом таго, хто гора
Адводзіў ад ізраільцян і вёў
З Егіпта іх, пасля ўтаймуе мора

64 Вялізных і грувасткіх камянёў.
Ягоным пэндзлем перад Судным тронам
Разліты будуць фарбы тых агнёў,

67 Якія бачыў я над пантэонам
Для грэшных душ. Галоўны п'едэстал
Таксама будзе дзецішчам ягоным.

А ўзнімецца здзяйсненняў гэтых вал
Прароцтвамі паэта-гебеліна,
Якому ў царствах трох сваіх прывал

Давала замагільная краіна.
І будзе гэты жыватворны век —
Як створаная геніем карціна.

Пакуль мячы і беды чыняць здзек,
Бы ў пустцы — кедр, які галінкай кожнай
Зрок радуе, паўстане чалавек

Маёй краіны над зямлёй бязбожнай,
Да неба дзіўны водар данясе.
Свае народы доляю трывожнай

Не будуць надзяляць цары, бо ўсе
Разглядваць будуць бюсты і палотны
І біць паклоны створанай красе.

Адчуе сілу іх тыран мярзотны,
Што знішчыць іх збаіцца, і сатрап,
Якога скульптар ці мастак гаротны

Ў сваёй рабоце ўвекавечыць, каб
Той збыў яе як сімвал ці эмблему
Тым, для каго з нас кожны — Божы раб.

Рабы ж павінны несці па бярэму.
Той, хто народу служыць,— не ілот,
А хто манарху прысвяціў паэму

І для яго свой пралівае пот,—
Як камергер, у золата адзеты,
Што б'е паклоны ўсім каля варот.

О Сіла, што людзей натхняе, дзе ты?
Чаму па шыях схіленых ідуць
Зямныя ўладары, хоць запаветы

Твае такога права не даюць?
Ці ж можна, што пашаны сын славуты,
Каму натхненне духі з неба шлюць,

З кляймом ганебным, зносячы пакуты,
Пляцецца да трыумфу, як жабрак,
Ці на ланцуг залочаны замкнуты?

Калі ж ён з нараджэння не бядняк —
Чаму яму не дазваляюць страсці
З абдымкаў іхніх вырвацца ніяк?

Фларэнцыя! У радасці і ў шчасці
Я жыў бы зараз, каб не твой прысуд.
Цяпер цябе я вымушаны клясці,

Бо з-за цябе пакінуў родны кут.
І ўсё ж хачу, каб ты жыла багата,
Свабодна, годна і не знала смут,

І зношу ўладу дробных супастатаў,
Якія будуць самым злосным злом,
Пакуль іх крывадушцы, што заўзята

І так паслужліва ім б'юць чалом,
Не скінуць з тронаў. У грахоў смяротных,
Што робяць подласць нашым рамяством,—

У жорсткасці; у сварак; у мярзотных
Учынкаў, што народжаны былі
Ад смерці ў думках цёмных і няцнотных

І славу тых мяшанцаў набылі,
Ў якіх кроў сына з матчынай змяшана;
У рабства, што ўладарыць на зямлі,—

Ёсць правадыр. Ён родны брат султана.
Фларэнцыя! Ты самы страшны кат.
І ўсё адно люблю цябе аддана.

Не раз, як сумны вязень, што з-за крат
Задумаў уначы зрабіць уцёкі,
Ляцеў праз горы да цябе назад,

Забыўшы крыўды, дух мой адзінокі,
Каму здаюцца моцнаю турмой
Пагоркі, мора, далягляд шырокі.

136 Хоць я і выгнаны табой, я твой!
Але дарма ты мне труну рыхтуеш.
Фларэнцыя! Калі дух змрочны мой

139 Да духаў родных вернецца, адчуеш
Ты сорам, жаль і мой дастойны прах
Труною непатрэбнаю ўшануеш.

142 Не вернецца мой прах пад родны дах.
О мой народ! Што я зрабіў такое,
Каб грамадзянін твой у скрусе чах?

145 Як абражае пакаранне злое
Бязлітасных сугараджан былых!
Яны вядуць са мной вайну за тое,

148 Што не сцярпеў я іх учынкаў злых.
Мне суджана памерці адзінокім,
Прарочым позіркам вачэй сляпых,

151 Блукаючы ў тым часе недалёкім,
Калі аслепіць Праўда вочы ім,
Дакладна прадказаная прарокам,

154 І змусіць іх лічыць яго сваім.

# ТЛУМАЧЭННІ



## ПРАРОЦТВА ДАНТЭ

### ПРЫСВЯЧЭННЕ

*О лэдзі* — паэма «Прароцтва Дантэ» прысвечана Тэрэзе Гвічыолі, якая натхніла Байрана напісаць гэты твор.

### ПЕСНЯ ПЕРШАЯ

3. *...з тым прывідам свяшчэнным* — г. зн. з Вергіліем (гл. тл. да «Дон-Жуана», I, 41), які ў «Боскай камедыі» з'яўляецца праваднікам Дантэ па Пекле і Чыстцы.

10. *Беатрычэ* — фларэнтыйка Беатрычэ Парцінары. Ёй Дантэ прысвяціў «Новае жыццё» і «Боскую камедыю», у якой яна з'яўляецца яго праваднікам па Раі.

40. *Апеніны* — горы ў Італіі.

68. *І надта прагнеш спальвання майго* — Дантэ за палітычныя перакананні быў выгнаны з роднай Фларэнцыі і асуджаны да спальвання на кастры. Памёр ён і пахаваны ў Равене.

108. *Марыус з Мінтурніцкіх балот* — гл. тл. да «Дон-Жуана», XII, 63.

170. *Арна* — гл. тл. да «Дон-Жуана», X, 7.

## ПЕСНЯ ДРУГАЯ

10. *Касандра* — гл. тл. да «Дон-Жуана», IV, 52.

35. *Таскана* — гістарычная вобласць у Італіі, цэнтрам якой з'яўляецца Фларэнцыя.

73. *Палацін* — адзін з сямі пагоркаў, на якіх пабудаваны Рым.

78. *Тыбр* — рака ў Рыме.

89. *Угаліна* — гл. тл. да «Дон-Жуана», II, 83.

94. *Прынц-здраднік* — французскі палкаводзец Шарль Бурбон (1490—1547), які здрадзіў каралю Францыску I і перайшоў на службу да германскага імператара. Загінуў пры аблозе Рыма.

98. *Брэн* — гл. тл. да «Дон-Жуана», VIII, 60.

*Бурбоны* — дынастыя французскіх каралёў з 1589-га па 1830 г.

108. *Эрыдан* — старажытнагрэчаская назва ракі По ў Паўночнай Італіі.

109. *Камбіс* — гл. тл. да «Дон-Жуана», XI, 58.

111. *Егіпцянін горды* — біблейскі фараон, патоплены морам, калі ён з войскам гнаўся за ізраільцянамі (гл. «Выхад», XIV, 26—28).

116. *Ксеркс* — гл. тл. да IV страфы гімна з Трэцяй песні «Дон-Жуана».

117. *Фермапілы* — гл. тл. да IV страфы гімна з Трэцяй песні «Дон-Жуана».

133. *... у Аўзонскім краі* — г. зн. у Італіі. Аўзонія — яе старажытная назва.

## ПЕСНЯ ТРЭЦЯЯ

17. Эол — у грэчаскай міфалогіі бог вятроў.

60. *Авернус* — возера каля Неапаля, якое ў старажытныя часы лічылася ўваходам у Пекла.

97. *Жыхар Афін з каменьчыкамі ў роце* — грэчаскі аратар Дэмасфен (каля 384—322 да н. э.), які, каб дабіцца выразнага вымаўлення, трымаў каменьчыкі ў роце.

104. *Геній гэты* — Франчэска Петрарка (гл. тл. да «Дон-Жуана», III, 8).

113. *Два волаты* — італьянскія паэты эпохі Адраджэння Лудовіка Арыёста і Тарквата Таса (гл. тл. да «Дон-Жуана», III, 96 і I, 71). Абодва былі набліжаны да двара ферарскага герцага.

145. *Царствуючы зводнік* — ферарскі герцаг Альфонса II.

148. *Кахаць ён будзе* — Байран, як і Гётэ, які напісаў п'есу «Тарквата Таса», лічыў, што прычынай зняволення Тарквата Таса было яго каханне да ферарскай прынцэсы Элеаноры.

157. *Адзін такі паэт ёсць у Элады* — маецца на ўвазе Гамер (гл. тл. да «Дон-Жуана», I, 41).

## ПЕСНЯ ЧАЦВЁРТАЯ

16. *Праметэй* — гл. тл. да I, 127.

42. *Апелес* — старажытнагрэчаскі мастак 2-й паловы IV ст. да н. э. Выраз «рыса Апелеса» азначае найвышэйшую дасканаласць.

*Фідый* — гл. тл. да «Дон-Жуана», VI, 42.

52. *Пантэон* — помнік старажытнарымскай архітэктуры II ст., «храм усіх багоў».

56. *Галоўны з іх* — сабор Святога Пятра ў Рыме.

60. *Той геній, што мастацтвы ўсе спасціг* — Мікеланджэла Буанароці (1475—1564) — італьянскі скульптар, мастак, архітэктар і паэт. Байран згадвае яго галоўныя тварэнні: статую Майсея, ансамбль плошчы Капітолія ў Рыме, купал сабора Святога Пятра, манументальную частку алтара гэтага сабора і грандыёзную фрэску «Страшны суд» на алтары Сіксцінскай капэлы.